№ 36 (3879)
13 мая 2014 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

*На простор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

Якуб КОЛАС

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

СКАНДАЛ

*Марэк МІГАЛЬСКІ, дэпутат Еўрапарламента:*
## «Перасячы мяжу немагчыма з-за рашэння Расіі»

На чэмпіянат свету па хакеі ў Мінску не пусцілі польскага дэпутата Еўрапарламента Марэка Мігальскага — даўняга крытыка беларускіх улад.

Ноччу 12 мая Мігальскага знялі з цягніка ў Брэсце падчас праходжання пасажырамі з Варшавы пагранічнага кантролю. Да раніцы польскага палітыка пратрымалі на беларускай мяжы ў чаканні цягніка ў Польшчу.

"*Я спрабаваў на цягніку перасячы мяжу разам з двума маімі памочнікамі. Але мне было сказана, што гэта немагчыма з-за рашэння Расіі*, — расказаў БелаПАН польскі еўрадэпутат. — *Афіцэр сказаў мне, што рашэнне не пускаць мяне — гэта рашэнне не беларускага, а расійскага боку. Я некалькі разоў спрабаваў удакладніць у яго прычыну, але ён мне так і не адказаў*".

На пытанне, па якой прычыне Расія магла запатрабаваць, каб яго не пускалі ў Беларусь, Марэк Мігальскі адказаў: *"Магчыма з-за таго, што я займаю актыўную пазіцыю па расійскім пытанні ў Еўрапарламенце. Акрамя таго, яшчэ адной прычынай можа быць тое, што і Пуцін, і Лукашэнка спрабуюць выкарыстаць спорт для легітымізацыі сваіх рэжымаў"*.

Трэба адзначыць, што Марэк Мігальскі неаднаразова заклікаў байкатаваць зімовую Алімпіяду ў Сочы і чэмпіянат свету па хакеі ў Мінску ў сувязі з парушэннямі правоў чалавека ў Расіі і Беларусі.

Двум памочнікам Мігальскага ўезд у Беларусь дазволілі, але яны прынялі рашэнне вярнуцца разам з дэпутатам у Варшаву. *"Віз у нас не было, таму што на час чэмпіянату свету па хакеі віза не патрэбна. Як вы ведаеце, дастаткова набыць білеты на хакей. Зразумела, яны ў нас былі, менавіта таму мы вырашылі паспрабаваць прыехаць у Беларусь"*, — патлумачыў Мігальскі.

SOS!



# Співаемся...

## *Беларусь першая ў свеце па спажыванні алкаголю*

*Такая выснова ўтрымліваецца ў Глабальным дакладзе аб становішчы ў галіне алкаголю і здароўя за 2012 год, распаўсюджанай Сусветнай арганізацыяй аховы здароўя.*

*Як высветлілі эксперты, у Беларусі за год спажываюць у пераліку на чысты спірт 17,5 л на чалавека за год. Гэта амаль у тры разы больш за сярэдні паказчык па свеце (6,2 літра чыстага спірту).*

*Другое месца ў гэтай сумнай статыстыцы займаюць жыхары Малдовы (16,8 л), трэцяе — Літвы (15,4 л). На чацвёртым месцы — Расія з 15,1 літра. Пяты радок заняла Румынія, шосты — Украіна. Сёмая — Андора, восьмая — Венгрыя, далей ідуць Чэхія і Славакія.*

БОЛЬ ВРЕМЕНИ



*Семен БУКЧИН*

# Украинская трагедия

***Я ж делал все,***
***Чтоб братьям помешать***
***Себя убить, друг друга истреблять.***

*Максимилиан Волошин*

### *Революция или переворот?*

И вот мы опять привыкаем... Это где-то там, в Славянске, Краматорске гремят выстрелы, гибнут люди. Это в Одессе люди прыгают из окон горящего здания. Война вроде не близко. Но и не очень далеко. А если точнее — она совсем рядом.

По-разному называют эту войну. То гражданской. То войной России с Украиной. То войной, которую Россия ведет с Евросоюзом, НАТО и США на территории Украины. И в каждом обозначении есть несомненная доля правды. Впрочем, это смотря на чей взгляд. Есть белорусские сайты, где преобладает черно-белая схема. С одной стороны действуют пророссийские боевики, штурмовики, сепаратисты, федералисты, террористы, захватчики, с другой — национальная гвардия, украинские силовики, антитеррористические подразделения, выступающие как борцы за целостность Украины. Еще есть разделение на "колорадов" и "укров". Ну и, конечно, и та и другая сторона награждают противную универсальным у нас обозначением — "фашисты". Вполне в соответствии с этой лексикой поделилось общественное мнение в Беларуси и в России. Говорят и пишут, что полоса раздела прошла между бывшими друзьями, создала трещины даже в семьях. Есть определенная схожесть с атмосферой гражданской войны в России начала прошлого века, когда брат шел на брата, сын против отца. Та же несхожесть взглядов и та же нетерпимость...

В связи с этим вспоминается жуткий в своей будничности текст из письма простого человека, одного из героев "Конармии" Бабеля: *"И по случаю той измены, всех нас побрали в плен и брат Федор Тимофеич попались папаше на глаза. И папаша начали Федю резать, говоря — шкура, красная собака, сукин сын и разно, и резали до темноты, пока брат Федор Тимофеич не кончился"*. Ну а потом автор письма, брат зарезанного папашей Федора, красноармеец, естественно, кончил самого папашу, когда тот попал к ним в плен.

То было в одной стране, — заметят мне. Верно, страна тогда была одна. Но почему так болит сердце у многих из нас, хотя сегодня Украина — это другая страна? Не потому ли, что на наших глазах родня убивает друг друга?

Кто все это устроил? Кто спровоцировал набирающее обороты братоубийство? Ответов всего два. Первый: одержимая имперским зудом российская власть. Второй: киевская хунта, опирающаяся на украинских бандеровцев.

Можно, конечно, избегая резко-однозначных определений, пуститься в исторические экскурсы насчет Новороссии, Слобожанщины, Галиции, Закарпатья и вообще "лоскутного одеяла" Украины, "сочиненной" Лениным, Сталиным и Хрущевым. Можно рассуждать о несовместимости менталитетов, исторических традиций и культурных предпочтений. Но все эти рассуждения рушатся перед одним аргументом: когда гражданам хорошо жить в своей стране, тогда никто не считает, что один регион враждебен другому. Напротив, национальное разнообразие регионов — украшение страны. В баварских семьях говорят на таком немецком, который абсолютно непонятен вестфальским. Но это не причина для вражды — немцы ценят свою языковую пестроту. А для широкого общения у них есть общий "хох дойч". А уж разница между баварским и вестфальским диалектами — это вам не отличие украинского от русского. Да, Львовская область не похожа на Донбасс. И это повод для вражды? Русский из Харькова не поймет украинца из Ивано-Франковска? Чепуха...

Нет, когда людям — даже при наличии проблем — хорошо в своей стране, они гордятся ею, их души расправляются, добреют, люди улыбаются. Во всяком случае отнюдь не хмурые и погруженные в жуткую бедность люди населяют и Шотландию, и канадский Квебек, и итальянскую Венецию, где идут дебаты об отделении.

А в Украине уже не первый год плохо. И на западе, и на востоке. В Украине нищета, жалкие пенсии и зарплаты. Многие люди бегут на заработки за границу. Кто на самых тяжелых работах, на стройках, на полях и фермах в Чехии, Венгрии, Польше, Германии? Украинцы. Я видел украинских женщин, работавших в польских розариях. Их лица и руки были покрыты пятнами оттого, что приходилось иметь дело с ядохимикатами.

Украинцев много лет беззастенчиво грабил разжиревший на общенародной собственности олигархат. Все эти Ахметовы, Пинчуки, Фирташи, Коломойские, действовавшие в разных связках с украинскими президентами, премьерами, министрами, депутатами, купившие и "безпеку", и милицию, и суд. Они оказались не предприимчивыми на западный манер владельцами шахт, пароходов и фабрик, а ошалевшими в погоне за прибылью, жадными и жестокими, беспощадными в клановой борьбе хищниками. Коррупция в стране приобрела чудовищные размеры. И украинцы не выдержали, они восстали против януковичского олигархата, против насквозь коррумпированной власти. Так возник Майдан.

Поддержанный сотнями тысяч людей Майдан потребовал смены власти. Это была революция. Руководство России и подчиненные ему СМИ говорят о государственном перевороте. Мол, нарушены были законы, вынудили бежать легитимного президента. А что же произошло в октябре 1917 года? Большевистский переворот или Великая социалистическая революция? И кто такой Ленин? Глава антигосударственного заговора или вождь восставших масс? Ведь в 1917 г. тоже были нарушены существовавшие тогда законы. И не странно ли, что по всей Беларуси стоят памятники инициатору российского государственного переворота? Ведь перевороты у нас не только не поддерживаются — даже намек на них жестоко карается. Достаточно вспомнить поцарапанные двери минского Дома правительства в декабре 2010 года.

Но та, петроградская революция, была почти сто лет назад, тогда можно было. А теперь нельзя, и любая революция есть незаконный переворот. О чем нам неоднократно напоминает президент Лукашенко, восклицающий при этом то ли с угрозой, то ли со страхом: "Не дай Бог!". Скорее всего — с тем и другим.

*(Окончание на 3-й стр.)*

СПЕЦЫЯЛЬНЫ РЭПАРТАЖ

# Мясны дэфіцыт?

Як вядома, мяса выключылі са спісу сацыяльна значных тавараў, цэны на якія рэгулююцца Міністэрствам эканомікі. І вось...

Тая ж свініна, якая раней у фірменнай краме мінскага холадакамбіната на Камароўскім рынку каштавала 39 тысяч рублёў, у мінулую суботу прадавалася ўжо па 56 тысяч. Прычым выбіраць не было з чаго — уся свініна тлустая.

Цэны гандляроў-прыватнікаў на Камароўцы і ўвогуле здзіўлялі. Свежае сала зусім без мясных прожылак — 75 тысяч рублёў за кілаграм. "Вы што, зусім здурнелі?!" — з жахам адскоквалі людзі ад прылаўкаў.

У магазінах з мясам учора было не густа. Пры гэтым цэны такія, што хочацца стаць вегетарыянцам.

Гастраном **"Семела"** на праспекце Незалежнасці. У лядоўні крамы ніводнага кавалка свініны ці ялавічыны. З мяснога ў асартыменце ёсць толькі куры і курыныя каўбаскі.

У прадуктовым аддзеле ЦУМа некалькі дзён была такая ж сітуацыя — з мясных прадуктаў гандляры маглі прапанаваць толькі фарш ды вымя. Але ў панядзелак раніцай асартымент пашырыўся: з'явіліся паўфабрыкаты ў латках — катлетная ялавічына, кавалкі свініны з тазасцегнавай часткі і з лапаткі.

Крыху далей па праспекце Незалежнасці — крама адной з самых папулярных у краіне гандлёвых сетак "**Еўраопт**". У мясным аддзеле — толькі фарш і тушкі кур. Гандляркі сказалі, што тавар замаўляюць на мясакамбінаце, але заяўкі не задавальняюць. Чаму? На іх думку, таму, што мяса зараз у дэфіцыце і ў першую чаргу яно пастаўляецца ў дзяржаўныя крамы.

Гэты пастулат у размове з карэспандэнтам "Народнай Волі", праўда, абверг кіраўнік аддзела рэалізацыі прадукцыі Мінскага мясакамбіната **Уладзімір ПАНЦЮШЭНКА**:

— *Нічога падобнага. Хто нам плаціць, таму мы і адгружаем прадукцыю. Няма ніякай розніцы. Мяса мы даём у крамы ў тых жа аб'ёмах, што і раней. Чаму знікла? Можа, гэта звязана з хакейным чэмпіянатам... Можа, яго хутчэй сталі раскупляць. Але мы забяспечваем усе заяўкі, і ніякага дэфіцыту быць не павінна.*

— ***Але прадстаўнікі гандлёвых сетак сцвярджаюць, што яны робяць заказы ды не могуць іх атрымаць у поўным аб'ёме.***

— *Хто скардзіцца? Няхай тыя, хто скардзіцца, тэлефануюць мне. Я ім сам усё патлумачу. А тое, што ў крамах вы асабіста не ўбачылі мяса, дык трэба быць у краме тады, калі яго прывозяць. Бо гэты тавар хутка разбіраюць.*

Пагадзіцеся, словы пра тое, што "трэба быць, калі тавар прывозяць", нагадваюць пра яшчэ не забытае савецкае мінулае. І наўрад ці могуць лічыцца сур'ёзным тлумачэннем раптоўнага мяснога дэфіцыту, які мы ўсе бачым на свае вочы. "Народная Воля" ў панядзелак не здолела дабіцца ніякіх сур'ёзных тлумачэнняў сітуацыі ні ад Міністэрства гандлю, ні ад спецыялістаў з Мінгарвыканкама, таму да гэтай тэмы мы абавязкова вернемся.

**Любоў ЛУНЁВА.**



ПАД ГРАДУСАМ

## *Дажджоў дачакаліся*

*У **сераду** чакаецца невялікая передышка: атмасферны фронт пакіне нашу краіну, дажджы на большай частцы спыняцца і пройдуць месцамі. Тэмпература паветра мінімальная ноччу — плюс 4—9, максімальная днём — плюс 16—23, па паўднёвым захадзе месцамі 13—15 градусаў цяпла.*

З чацвярга да нядзелі надвор'е будзе вызначаць паўднёвы цыклон, які будзе перамяшчацца з раёна Карпат уздоўж нашых паўднёва-заходніх межаў на Польшчу.

**15 мая, у чацвер,** ноччу пераважна па паўднёва-заходняй палове, днём на большай частцы тэрыторыі кароткачасовыя дажджы, месцамі навальніцы. Днём у паўднёва-заходніх раёнах узмацненне ветру парывамі да 15—20 м/с. Тэмпература паветра мінімальная ноччу — плюс 7—14, максімальная днём — плюс 17—23, па ўсходзе месцамі да +25, па паўднёвым захадзе — плюс 13—16".

У **пятніцу** на большай частцы тэрыторыі Беларусі чакаюцца дажджы, месцамі моцныя дажджы, навальніцы. У суботу дажджы захаваюцца. "*У **нядзелю** цыклон страціць сваю сілу і надвор'е пачне паляпшацца.*

ЧЭМПІЯНАТ СВЕТУ ПА ХАКЕІ-2014



# Зборная Беларусі атрымала другую перамогу!

Зборная Швейцарыі, нягледзячы на тое, што прыехала ў Мінск не ў самым моцным складзе, усё ж такі сярэбраны прызёр сусветнага першынства.

Беларуская каманда таксама не мела маральнага права дрэнна сябе паказаць перад роднымі балельшчыкамі. І гэта на самай справе было захапляльнае відовішча!

Перавага была то на адным баку, то на другім. Беларусы адкрылі лік у матчы, затым выйгравалі швейцарцы 2:1, 3:2... Аднак нашы хакеісты не толькі здолелі зраўняць лік, але і закінулі за 2 хвіліны да заканчэння гульні пераможную шайбу. Ды як закінулі! Сяргей Касціцын зрабіў ювелірны пас на Міхаіла Грабоўскага, а "МІГ-84", як называюць яшчэ Мішу, прасвісцеў па пляцоўцы і прымусіў швейцарскага варатара дастаць шайбу з варот.

Малайцы! Наступны матч беларусы згуляюць 15 мая з камандай Фінляндыі.

**Алесь СІВЫ.**

Народная Воля http://www.nv-online.info 13 МАЯ 2014 г.

РЭГІЁНЫ

## Якая розніца паміж Мінскам і Фаніпалем?

Аляксандр Лукашэнка вызначыўся, якія малыя гарады атрымаюць статус гарадоў-спадарожнікаў абласных цэнтраў і сталіцы.

Так, у адпаведнасці з указам статус горада-спадарожніка Мінска нададзены Дзяржынску, Заслаўю, Лагойску, Смалявічам, Фаніпалю і гарадскому пасёлку Рудзенск. Статус горада-спадарожніка Брэста нададзены Жабінцы, а горада-спадарожніка Гродна — Скідзелю.

Цікава, што кіраўнік Магілёва Уладзімір Цумараў на нарадзе ў гарвыканкаме ўжо абвясціў, што спадарожнікам гэтага абласнога цэнтра стане Быхаў. Але Аляксандр Лукашэнка пакуль не зацвердзіў гэтае рашэнне сваім указам.

Нагадаем, што калі чалавек стаіць у чарзе на кватэру, напрыклад, у Мінску, а яму прапануюць будавацца ў горадзе-спадарожніку, то ад такой прапановы можна адмовіцца.

## Палёты аднаўляюцца

З 11 чэрвеня гомельскі аэрапорт прапануе вылеты ў Маскву, Астану, Батумі, Ерэван, Кутаісі, Тбілісі, Тэль-Авіў з перасадкай у Нацыянальным аэрапорце Мінск.

Прычым — сапраўднае дзіва для нашага часу! — на некаторых напрамках білет Гомель—Мінск будзе зусім БЯСПЛАТНЫ. Такі цуд здарыцца, калі далей, з Мінска, пасажыр ляціць, напрыклад, у той жа Ерэван.

## Спатрэбіўся месяц

Разнос, які месяц таму Аляксандр Лукашэнка ўчыніў на Слуцкім мясакамбінаце, дарма не прайшоў.

Увесь час пасля прыезду кіраўніка дзяржавы прадпрыемства выпраўляла недахопы, працуючы ў тры змены і без выхадных, і цяпер гатова аднавіць працу.

Кіраўнік Мінскай вобласці **Сямён Шапіра** чакае, што мясакамбінат зноў запрацуе 15 мая.

Нагадаем, што Следчы камітэт выканаў указанне прэзідэнта і распачаў крымінальныя справы ў дачыненні да кіраўнікоў ААТ “Слуцкі мясакамбінат”. Крымінальныя справы ўзбуджаны адразу па трох артыкулах Крымінальнага кодэкса Беларусі: 428 (службовая халатнасць), арт.426 (перавышэнне ўлады або службовых паўнамоцтваў) і арт.424 (злоўжыванне ўладай або службовымі паўнамоцтвамі). У якасці падазроных пакуль праходзяць дзве службовыя асобы мясакамбіната — дырэктар і яго намеснік.

## Абмялела «Ручайка»

Дзяржава шукае пакупніка на стратную кобрынскую фабрыку “Ручайка”.

Адпаведная аб’ява ўжо з’явілася на сайце Дзяржаўнага камітэта па маёмасці. Улады Беларусі гатовы прадаць увесь дзяржпакет акцый — 99,6%, які ацэньваецца ў 13,7 мільёна долараў.

Кобрынская прадзільна-ткацкая фабрыка “Ручайка” з’яўляецца буйным вытворцам прамысловых тканін, але не паспяховым. Чыстыя страты прадпрыемства ў мінулым годзе склалі 8 мільярдаў рублёў, крэдыторская запазычанасць — больш за 12 мільярдаў. Пры гэтым на прадпрыемстве працуе 450 чалавек, што для невялікага Кобрына значны паказчык. Хаця сярэдні заробак работнікаў фабрыкі невялікі — 2,9 мільёна рублёў.

## Салігорск стане горадам джаза

У гэтым годзе на фестывалі Jazz-Time 16—18 мая ў Салігорску чакаюць каля 400 удзельнікаў, у тым ліку 69 салістаў-інструменталістаў, 17 ансамбляў і 10 аркестраў.

Апроч музыкантаў з розных рэгіёнаў Беларусі ў беларускую сталіцу шахцёраў прыедуць канкурсанты з Масквы, Жукоўскага, Яраслаўля і Смаленска. Выступленні будзе ацэньваць кампетэнтнае журы, у склад якога ўвойдуць прадстаўнікі Беларусі, Расіі і Швецыі. Старшынёй журы стане заслужаны артыст Беларусі Уладзімір Ткачэнка. Ацэньваць канкурсантаў будзе ў тым ліку вядомы расійскі кампазітар, прафесар Маскоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў і Расійскай акадэміі музыкі імя Гнесіных Юрый Чугуноў.

ВЗГЛЯД ИЗНУТРИ

*Владимир КУДИНОВ:*

# «Севастопольцы привыкли покупать свежее, охлажденное мясо, но, видимо, придется, привыкать к замороженному»

***Почти два месяца прошло после так называемого крымского референдума, по итогам которого полуостров Крым вошел в состав России. Как изменилась жизнь в Крыму? Чему радуются и чего опасаются сегодня местные жители? Мы дозвонились до нашего земляка, депутата Верховного Совета 13-го созыва Республики Беларусь Владимира КУДИНОВА. 13 лет он с семьей живет в Севастополе, имеет там свой бизнес.***



**— Владимир, добрый день! Как настроение? Как вам там сейчас живется в составе Российской Федерации?**

— Живем... Украина считает, что Крым — это временно оккупированная территория, а Российская Федерация считает, что это территория России. Что касается Севастополя, то в городе все спокойно. До референдума жили тихо, мирно, никаких межнациональных конфликтов среди местных жителей не было. И сейчас никаких вспышек нет. Только цены стали расти, уже процентов на 50 выросли.

**— Но я читала, что и зарплаты вам повысили. Учителям, например, на 25 процентов. Москва обещает дальнейшее повышение зарплат…**

— Пока зарплаты у нас остаются те же. Только бюджетникам с апреля они были повышены на 25 процентов. Пенсии тоже выросли на 25 процентов.

**— Владимир, вы ходили на референдум?**

— Я гражданин Беларуси, был и остаюсь им, поэтому в любом случае я не мог голосовать. Моя позиция, позиция моей семьи такова: русские, украинцы и белорусы — братья, у нас тысячи лет общей истории, мы должны жить в мире, нельзя допускать кровопролития... Сегодня тут многие говорят, и я придерживаюсь этой точки зрения: Крым много лет был под Киевом, был под Россией и даже под Грецией, принадлежал Турции, и раз это спорная территория, то, возможно, здесь можно было бы сделать некую офшорную зону типа Кипра с двойным управлением — из Украины и России. Возможно, это было бы справедливо. А так Крым потянул за собой новые проблемы в Украине.

**— В украинских СМИ появилась информация, что явка на крымском референдуме была 15%. А российские масс-медиа говорят о почти 100-процентной явке и почти единогласном голосовании за вхождение Крыма в состав России. Что вы скажете по этому поводу?**

— Мне сложно говорить о ситуации на всем полуострове. Что касается Севастополя, то явка на избирательные участки действительна была высокая. Мои знакомые, родственники, которые ходили голосовать, рассказывали, что как минимум две трети из списка избирателей на их участке проголосовали. Думаю, 70—80 процентов севастопольцев радостно восприняли и сам референдум, и вхождение в состав России. Хотя были и те, кто голосовал за Украину. Но не надо забывать, что в Севастополе живет много этнических русских, это, как поется в песне, город русских моряков. Но сегодня горожане, особенно те, которые имеют высшее образование и могут анализировать ситуацию, стали задумываться: “А что будет завтра?” Как бы там ни было, Украина среди всех бывших советских республик, исключая страны Балтии, наиболее демократическая страна. Свобода слова, свобода СМИ, прямые эфиры, ток-шоу, публичные обсуждения. Люди привыкли жить свободно, не оглядываясь, привыкли говорить то, что считают нужным, а не то, что правильно с идеологической точки зрения. И это все может уйти в прошлое.

Второй не менее, а может, и более важный аспект — это уровень жизни. Станет ли он таким, как обещает Россия? Не станет ли Крым жить хуже? Ведь что получается: сегодня уровень жизни в России выше, чем в Украине, но и цены на 30—40 процентов выше. Думаю, в ближайшее время главной проблемой для Крыма станут поставки продуктов питания из Украины. И не исключено, что может возникнуть вопрос, а не возвращаться ли Крыму обратно в состав Украины.

**— Вы хотите сказать, что с материковой части Украины уменьшились поставки продуктов?**

— Сегодня поставки продуктов питания в основном идут из Украины, потому что из России они могут поставляться только паромом, по морю. А это очереди. Кроме того, в любой момент на море может начаться шторм, и паромы не будут ходить день, два, три. Второй фактор: российские цены на продукты питания выше, чем в Украине. Никто дешевле их нам поставлять не будет. Значит, цены еще вырастут. По подсчетам, если продукты питания будут поставляться из России, цены на них повысятся в два раза в гривенном эквиваленте.

Две недели назад новые власти ввели запрет на ввоз мяса свинины из Украины, и цены сразу выросли на 70 процентов, а то и в два раза. Если, например, 1 килограмм карбоната стоил 50 гривен, то сразу после запрета — 100 гривен. Эксперимент не удался, пришлось отменять это решение.

**— А Украина не отказывается снабжать полуостров продуктами?**

— Не отказывается. Но, думаю, проблемы могут возникнуть. На прошлой неделе Национальный банк Украины запретил украинским банкам работать в Крыму, следовательно, платежи в гривнах на Украину уже не идут. Получается, что сейчас, чтобы получить товар из Украины, надо заключать внешнеэкономический договор, так как оплата будет в валюте. Но возникает другой нюанс: Украина-то не признает Крым как российскую территорию. Поэтому возможны проблемы с поставками продуктов питания из Украины. Летом в Крым с материковой части Украины в день шло порядка 500—600 грузовых машин с различным товаром — продуктами питания, стройматериалами, техникой, одеждой... Паромом столько пропустить не смогут, максимум — 300 машин в день. Но пока запасы в магазинах есть. Хотя... Севастопольцы привыкли покупать мясо свежее, охлажденное, но, видимо, придется, привыкать к замороженному.

**— А что касается поставок электроэнергии, бензина? Как вы думаете, Россия сделает из Крыма полуостров-сад?**

— Думаю, инвестиции из России в Крым пойдут. Но только в Севастополь и на Южный берег Крыма. Я много общаюсь с москвичами, и все как один говорят о том, что Севастополь — это русский город, ему нужно дать второе дыхание. Ну, а Южный берег Крыма — это пляжи, это туризм...

Но как быстро эти инвестиции могут пойти? Вот вы спросили об электроэнергии. Если Украина решит отключить полуостров, то проблемы начнутся серьезные и для производителей, и для населения: свет будут включать по графику. И к этому надо готовиться.

Я думаю, что если обострение конфликта с Россией будет и дальше продолжаться, Украина будет “решать” на полуострове и вопрос с электроэнергией, и с пресной водой. Уже сейчас на материковой части Крыма возникла проблема с поливом сельхозплощадей. Дело в том, что приблизительно 80—85-процентов пресной воды Крымский полуостров получает из реки Днепр через Северо-Крымский канал. Канал начинается на Каховском водохранилище. Там вода как бы месяц впитывается, канал сначала насыщается водой, и уже потом вода идет по каналу дальше, до Керчи. Такая технология. Но она сейчас не поддерживается. Вода доходит только до Джанкоя. И уже в глубине полуострова наблюдается дефицит пресной воды, под угрозой урожай этого года.

Единственное, на что снизились цены, — автомобильное топливо. Бензин поступает из России, и он дешевле на 30 процентов, чем в Украине. Например, литр дизтоплива в Украине стоит 14 гривен, а мы в Севастополе уже покупаем в пересчете на гривну за 10,7—10,8.

**— Складывается впечатление, что пока в Крыму больше проблем, чем положительных моментов…**

— Проблемы будут. Уже, например, украинские компании сотовой связи повысили тарифы на свои услуги. А российские крупные компании сотовой связи и крупные российские банки в Крым не идут. Боятся международных финансовых санкций. Если, например, крупный оператор мобильной связи из России придет в Крым, может потерять роуминг, а это большие деньги.

**— А границы с Украиной открыты? Проблем при пересечении нет?**

— Я буквально на днях ездил в Херсонскую область. На границе со стороны Крыма стоят российские пограничники. Требуют предъявить паспорт, осматривают машину. На территории Украины — та же процедура, только поинтересовались целью поездки. А вообще никаких проблем с пересечением границы не было. На обратном пути точно так же — границу прошел быстро, только в паспорте уже штамп поставили. Очередей на границе нет.

**— Как, на ваш взгляд, будет себя чувствовать мелкий бизнес в новых условиях? Вы лично как думаете дальше работать? Помню в 2011 году в интервью “Народной Воле” вы рассказывали о своих планах расширить производство мяса бройлерной птицы, говорили, что есть партнеры в России…**

— С 2011 года, как говорится, много воды утекло. В прошлом году мы вынуждены были остановить свое производство, потому что были неконкурентоспособны с крупными украинскими холдингами. Крупные монополии демпинговали, мы не могли реализовывать продукцию по предложенным ценам, это означало работать в минус.

Вообще при Януковиче мелкому бизнесу было сложно. При Тимошенко сельхозпроизводителям компенсировали двойную ставку рефинансирования, проценты за кредит. А когда Янукович пришел к власти, эти льготы были ликвидированы, новая власть решила никому на периферии кредиты не давать и сделала ставку на крупного производителя, потому что так, видимо, было проще делить деньги. Вообще, конечно, Украина при Януковиче — это коррупция и взятки невиданных масштабов. Чтобы чем-то заниматься, нужно было платить — чиновникам, милиции и т.д. Не все могли, разорялись. Поэтому и вырос Майдан. И поэтому, наверное, уже хуже быть не может. Во всяком случае мелкий бизнес, индивидуальные предприниматели ожидают перемен к лучшему. Придут российские компании, и, я думаю, контролировать их деятельность в Крыму будут в Москве. Если российское правительство поставит задачу, например, обеспечить полуостров свининой, куриным мясом, молочными продуктами и т.д., они вынуждены будут это выполнять. Так что инвестиции сюда пойдут. И что касается лично меня, думаю, предприятие снова заработает. Мы готовы выращивать мясо птицы: производственные площади остались, рабочий потенциал есть. Веду сейчас переговоры с российскими компаниями, которые изъявляют желание помимо торговли заниматься в Крыму и производством. Пока, правда, мы на стадии бизнес-планов, надо модернизировать производство, поставлять новое, менее энергоемкое оборудование, потому что нехватка электроэнергии в Крыму будет ощущаться уже очень скоро. Думаю, к концу лета снова запустить производство.

**— А как вы этот год прожили, если фабрика не работала?**

— У меня же есть работающая жена, она зарплату получала. Но это, конечно, шутка... В прошлом году я работал над совместным проектом с заинтересованными сторонами из России и Беларуси, мы занимались поставками в Москву мяса с белорусских мясокомбинатов, помогали белорусскому правительству разгружать склады.

**— А ваши планы вернуться в Беларусь? Может, время пришло?**

— К сожалению, в Беларуси до сих пор не создан климат для нормальной, продуктивной работы. Не знаешь, чего ожидать от властей. Например, взять службу госконтроля в Беларуси. Она не только приводит факты нарушения, но и делает заключения. Например, приехали проверяющие КГК на сельхозпредприятие и дают заключение, что данному предприятию было бы экономически выгодно не продавать картофель в сентябре, а хранить его до марта. И руководителя могут посадить за неэффективную работу. И никто не вникает, а были ли возможности, помещения, оборудование у предприятия для хранения урожая. В директорском корпусе Беларуси самая популярная пословица сегодня: “Раньше сядешь, раньше выйдешь”. Мне как-то звонили из Беларуси журналисты и спрашивали, готов ли я откликнуться на предложение правительства вернуться обратно на родину и занять какую-нибудь руководящую должность. Якобы кто-то из высших руководителей страны сказал, что надо приглашать в страну белорусов, которые уехали и успешно работают за рубежом. Предложение вроде бы заманчивое: дети взрослые, опыт есть, можно ехать, работать. Но опасений больше, чем возможных перспектив.

**— Владимир, а как, кстати, живет ваша семья?**

— Жена в этом году выходит на пенсию по возрасту. Зоя — гражданка Украины, работала в городской администрации, имеет статус госслужащего, следовательно, и пенсию будет получать госслужащего, а она выше обычной.

Дочери давно замужем. Старшая живет в Испании, у нее трое детей. Младшая тут, в Севастополе, живет отдельно от нас. У нее двое детей. Так что я богатый дед: у меня есть три внучки и два внука.

**— И последний вопрос. Севастополь готов к туристскому сезону? Ожидаете наплыва отдыхающих в этом году?**

— Не думаю, что этим летом в Крым поедет много туристов. Украинцы не поедут, россияне — маловероятно, массового заезда точно не будет. Белорусы тоже пока выжидают, не известно, когда на востоке Украины станет все спокойно. Думаю, заполнятся только бюджетные санатории, которые не были частными, туда из России завезут отдыхающих.

**Мария ЭЙСМОНТ.**

### ДОСЬЕ «НАРОДНОЙ ВОЛИ»

Владимир Кудинов — депутат Верховного Совета 13-го созыва, предприниматель из г.Ивацевичи Брестской области.

В 1996 году Владимир Кудинов был в числе депутатов, которые поставили свои подписи под обращением в Конституционный суд с требованием импичмента президенту Лукашенко.

В феврале 1997 года Владимир Кудинов был арестован якобы за попытку дачи взятки должностному лицу. Суд Борисовского района Минской области признал его виновным и вынес приговор — семь лет лишения свободы. Экс-депутат своей вины не признал, заявил, что его дело сфабриковано.

В сентябре 1999 года Парламентская ассамблея Совета Европы приняла специальную резолюцию по Беларуси, в которой аресты Владимира Кудинова и некоторых других представителей белорусской оппозиции были квалифицированы как политические репрессии по отношению к инакомыслящим.

В феврале 2001 года Владимир Кудинов, отбыв в заключении четыре года, был освобожден. В том же году с женой и дочерьми уехал в Украину, в Крым.

КОНКУРС

## Першай ластаўкай стала Дзіяна з Пецярбурга

*Учора ўвечары прайшло ўзнагароджанне пераможцаў II Адкрытага конкурсу імя Станіслава Манюшкі “Убельская ластаўка”.*

Конкурс Манюшкі для маладых вакалістаў — студэнтаў вышэйшых музычных навучальных устаноў праводзіцца ў краіне ўжо 15 гадоў, але міжнародным, адкрытым ён стаў нядаўна. У гэтым годзе ў ім бралі ўдзел студэнты з Расіі, Украіны і Чэхіі.

Першае месца і прыз у памеры 1,5 тысячы долараў журы пад старшынствам заслужанага артыста прафесара Віктара Скорабагатава аддала Дзіяне Нурмухаметавай, студэнтцы Санкт-Пецярбургскай кансерваторыі імя Рымскага-Корсакава. Другое і трэцяе — Віктару Мендзелеву і Паўлу Пятрову, студэнтам Беларускай акадэміі музыкі. Спецыялісты лічаць іх яркімі і перспектыўнымі маладымі акадэмічнымі спевакамі. Абодва яны ўжо працуюць у трупе Вялікага тэатра Беларусі. Абодва ўжо па некалькі разоў выступалі на міжнародных конкурсах у Расіі, Польшчы, Малдове і вярталіся дадому з перамогамі.

Паўлу Пятрову таксама была ўручана спецыяльная прэмія Інстытута Польскага ў Мінску за лепшае выкананне твора Станіслава Манюшкі. У гэтым годзе музычная грамадскасць адзначыла 195 гадоў з дня нараджэння славутага кампазітара. Мінгарвыканкамам прынята рашэнне ўсталяваць яму помнік у сталіцы. Над ім цяпер працуе скульптар Сяргей Гумілеўскі.

**Кірыл БУБНОЎ.**

ГУЧНАЯ СПРАВА

## Кіраўнік «Облика» асуджаны на 8 гадоў турмы

*Учора ў Брэсце была пастаўлена кропка ў адной з найбольш рэзанансных крымінальных спраў, якія тычацца правапарушэнняў у будаўнічай галіне.*

Судовая калегія па крымінальных справах Брэсцкага абласнога суда прызнала былога генеральнага дырэктара таварыства з абмежаванай адказнасцю “Облик” **Мікалая Клімука** вінаватым у здзяйсненні злачынстваў, прадугледжаных ч.3 арт.424 КК (крадзеж шляхам злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі) і ч.4 арт.210 КК (злоўжыванне ўладай або службовымі паўнамоцтвамі), якія пацягнулі прычыненне істотнай шкоды правам і законным інтарэсам грамадзян у асабліва буйным памеры. Клімук асуджаны на 8 гадоў пазбаўлення волі з адбываннем пакарання ў папраўчай калоніі ва ўмовах ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй усёй маёмасці.

Як вядома, крымінальная справа ў дачыненні да былога генеральнага дырэктара ТАА “Облик” Мікалая Клімука Брэсцкі абласны суд пачаў разглядаць яшчэ 15 кастрычніка 2013 года. Яго абвінавачвалі ў тым, што гаспадарчая дзейнасць кампаніі была арганізавана па прынцыпе фінансавай піраміды. Такі падыход нанёс шкоду ТАА і дольшчыкам у суме 6,3 млрд рублёў. У судзе былі дапытаны сотні падманутых дольшчыкаў. З іх толькі некалькі чалавек не прызналі сябе пацярпелымі, паколькі паспелі прадаць свае кватэры, у тым ліку — з выгадай для сябе. Усе астатнія лічылі сябе пацярпелымі і патрабавалі кампенсацыі шкоды.

Дарэчы, што тычыцца кампенсацыі шкоды пацярпелым дольшчыкам, то гэтыя справы будуць разглядацца ў рамках грамадзянскіх іскаў. Пры гэтым сам Мікалай Клімук лічыць, што асабіста ён нічога не павінен кампенсаваць, да таго ж падлікі па ісках некарэктныя, а пакрыццё шкоды павінна ісці ў рамках справы аб банкруцтве ТАА “Облик”, якім займаецца кіруючая кампанія.



ФОТАФАКТ

*Нібы пакрыты салодкай глазурай, лось-альбінос у атачэнні сваіх суродзічаў больш звыклага выгляду выходзіць падсілкавацца на рапсавае поле каля вёскі Філіпаны Астравецкага раёна.*

Гэты сахаты з незвычайнай афарбоўкай упершыню на тэрыторыі раёна быў заўважаны яшчэ ў мінулым годзе. Аднак “злавіць” незвычайнага прыгажуна ў аб’ектыў фотакамеры атрымалася толькі сёлета.

Як расказаў галоўны паляўнічтвазнаўца Астравецкага лясгаса **Віктар Мечыслававіч Урбановіч**, у прыродзе рэдка сустракаецца з’ява альбінізму.

Таму, калі вам раптам давядзецца пабачыць сярод танкаствольных бяроз цыбатага лася-”белячка”, не палохайцеся. Гэта значыць, што лось-альбінос ізноў выйшаў з лесу, каб падсілкавацца. І нам пашанцавала ўбачыць на свае вочы гэты цуд прыроды...

БЫВАЙ, ШКОЛА!

## Выпускныя вечары пройдуць у мінскіх школах 12 чэрвеня

“У гэтым годзе вучоба для вучняў 1—8-х і 10-х класаў скончыцца 30 мая, а 31 мая з 10.00 да 12.00 у сталічных школах празвіняць апошнія званкі для 13.938 вучняў 9-х класаў і 8168 выпускнікоў 11-х класаў. Выпускныя вечары ў гэтым годзе пачнуцца ў 19.00 12 чэрвеня”, — сказаў старшыня камітэта па адукацыі Мінгарвыканкама **Міхаіл Міронччык.** Прыём у першыя класы сталічных школ адбудзецца з 2 чэрвеня па 28 жніўня. Чакаецца, што ўпершыню за парты ў наступным навучальным годзе сядуць больш за 20 тыс. дзяцей. Уступная кампанія ў 5-я класы гімназій пройдзе з 2 па 10 чэрвеня, у 10-я класы — з 15 па 20 чэрвеня, у 8-е класы ў кадэцкія вучылішчы — з 20 па 30 чэрвеня.

стае, на зялёнай траве газона серабрыўся шэрань.

Зрабіўшы кароткую зарадку, завітаў у катух-кабінет гаспадара, дзверы якога былі расчынены. На паліцах шмат беларускіх кніг: Купала, Колас, Багдановіч. На стале старэнькая машынка-друкавалка, каля яе кніжка Алеся Пісьмянкова, якую я прывёз Сяднёву з цёплым аўтографам паэта-земляка. Кніга выйшла ў серыі "Беларуская паэзія ХХ стагоддзя". Далей ляжаў томік Жэні Янішчыц, зборнік Леаніда Галубовіча з цёплым, ёмістым надпісам: "Паэту Масею Сяднёву ад паэта — на згадку пра імгненнасць жыцця. 10 ліпеня 1993".

На паліцах павінны былі стаяць і мае "Шчыглы", якія даўно падпісаў Сяднёву, але яны не "даляцелі". Тут выйшла такая гісторыя.

У выдавецтва "Мастацкая літаратура", дзе я тады працаваў, прыехаў Сяднёў з дачкой Ірынай. Гэта быў першы ягоны візіт у Беларусь у 1990 годзе.

Пасядзелі, пагаварылі, выпілі гарбаты. Пра тое, што будзе сустрэча, я не ведаў, пабедаваў, што не маю кнігі. "Прынясі заўтра. Я перадам", — сказаў Васіль Хомчанка. Дарэчы, дзякуючы яго запрашэнню Масей Сяднёў прыехаў на радзіму. Я зрабіў так, як і дамовіліся. Ішоў час, ад Сяднёва ніякай весткі не было. Пасля смерці Хомчанкі мяне прызначылі старшынёй камісіі па ягонай спадчыне. Неяк разам з Генадзем Шупенькам, членам камісіі, мы завіталі да ўдавы Хомчанкі пазнаёміцца з рукапісамі, якія засталіся. Гасцявалі доўга. У шафе пад шклом я ўбачыў сваіх "Шчыглоў", разгарнуў і не паверыў вачам — гэта была кніга з аўтографам Сяднёву. Моўчкі паставіў кнігу на месца. Мусіць, у мітусні перад ад'ездам Хомчанка забыў перадаць яе Сяднёву. Пазней я пашкадаваў, што не ўзяў кнігу. Асабліва шкадаваў перад ад'ездам у ЗША. Колькі разоў тэлефанаваў на кватэру ўдавы, але ніхто не адказваў. Пра падпісаныя некалі "Шчыглы" нічога не сказаў Масею Ларывонавічу. І не таму, што не хапіла часу...

Пасля сняданку мы зноў згадвалі родныя мясціны.

— Бацькі мае — Ларывон і Маланка. Абое непісьменныя, працавітыя. Але жылі бедна. Нават ад падаткаў вызваляліся, — апавядаў Сяднёў. Спытаўся пра маіх бацькоў.

— Мой бацька, Кірэй Васільевіч, скончыў да рэвалюцыі тры класы. А маці, Ганна Ларывонаўна, была зусім непісьменная. Нарадзілася не ў Клеявічах, а ў вёсцы Рвенск. Гэта на поўнач, а Мокрае ад нас на поўдзень. І Рвенск, і Клеявічы, і вашу вёску знішчыў Чарнобыль.

— Дык ваш дзед па маці і мой бацька — цёзкі, — дзівіўся Сяднёў і сумным голасам дадаў: — Мы з вамі — дзеці адселеных вёсак.

Пачалі збірацца ў парк Моргана. Масей Ларывонавіч разам з жонкай селі ў старэнькую блакітную "Хонду" і паехалі паперадзе нас. На алеях парку, калі мы памалу хадзілі ўдвух, зямляк прызнаўся, што Дуся, каханая дзяўчына героя рамана "І той дзень надышоў", — гэта першая ягоная жонка, жыве ў Талачынскім раёне. У яе ёсць сын, які зараз ужо на пенсіі, у яго дарослыя дзеці — унукі Сяднёва. Праўда, яны носяць іншае прозвішча. Масей Ларывонавіч увесь час дапамагаў першай жонцы. Калі быў у Беларусі, ездзіў да яе на сустрэчу. Да апошніх дзён жыцця дапамагаў унукам: і тым, што ў Амерыцы, і тым, што на беларускай зямлі. Сын-першынец да пенсіі працаваў калгасным механізатарам.

На развітанне Масей Ларывонавіч падпісаў мне тры свае кнігі, якія ўбачылі свет за мяжою. Аўтографы ўсе розныя...

## 6

Па вяртанні ў Бостан узяўся за кнігі земляка. Шмат якія вершы, раздзелы з раманаў чытаў у часопісах, а тут меў кнігі, якія нарадзіліся далёка ад Беларусі. І чытанне гэтае было своеасаблівым. Адчуваўся аўтарскі сум, настальгія — самая светлая і самая чорная хвароба, на якую пакутуе чалавек, калі суровы лёс закідвае яго далёка ад радзімы. Накладваў адбітак і мой сум па радзіме, бо ніколі гэтак далёка не быў ад свайго краю. Але ж у мяне меўся білет на самалёт дадому, набыты яшчэ ў Мінску, — без яго не выпускаюць.

Амаль праз дзень тэлефанаваў Сяднёў, бедаваў, што мала пагаманілі, паведамляў, што чытае маю кнігу "Вяртанне ў радыяцыю", зборнік вершаў Пісьмянкова прачытаў:

— О, халерачка! Выдатны паэт выйшаў з нашага Прыбяседдзя, — радаваўся Масей Ларывонавіч.

Прачытаўшы ўсе тры кнігі, вырашыў напісаць ліст земляку. Хай не палічыць чытач нясціпласцю, але гэта ўжо гісторыя: ліст напісаны 4 снежня 2000 года ў Бостане. Дарэчы, яго прачытала дачка Вольга, сказала: "Вось пашлём, а калі яно згубіцца, то нічога не застанецца. Трэба зрабіць ксеракопію..." Дзякуючы ёй, маю адбітак і магу прывесці тут адну вынятку.

"Дарагі Масей Ларывонавіч! Пасля сустрэчы з Вамі, прачытання Вашых кніг, учарашняй размовы па тэлефоне думаю пра Ваш лёс. Вы — свайго роду сімвал, высокі прыклад таленавітасці, жыццястойкасці беларускай нацыі. Шкадую, што Вашы раманы цалкам прачытаў тут, у Амерыцы, а не раней, што яны былі выключаны з літаратурнага працэсу. Кнігі "І той дзень надышоў", "Раман Корзюк" — унікальныя паводле зместу, па сваім майстэрстве, псіхалагічнай глыбіні, вобразнасці, моўным каларыце. На маю думку, ніхто ў нашай літаратуры так не перадаваў пачуцця кахання, чалавечай жарсці, як Вы ў рамане "І той дзень надышоў". Ні ў раманах Чыгрынава, ні ў маіх — а мы ж з аднаго рэгіёна, з Прыбяседдзя — няма такой каларытнай мовы. Такі твор, як "Раман Корзюк", маглі напісаць толькі Вы, бо ён выпакутаваны ўсім Вашым жыццём. Спадар Барыс Кіт мае рацыю — гэта твор сапраўды ўнікальны..."

У Мінску я адразу пачаў выконваць абяцанне земляку, сустрэўся з галоўным рэдактарам выдавецтва "Беларускі кнігазбор" Кастусём Цвіркам. Той падтрымаў прапанову.

— Даўно думаю, трэба выдаць важкі том Масея Сяднёва. Вярнуць яго беларускаму чытачу. У кнізе дадзім і паэзію, і прозу. І эсэістыку. І дзённікі — таксама.

Узрадаваны, я напісаў Сяднёву, каб ён прапанаваў свой план будучай кнігі і шукаў спонсара. Вядома ж, павіншаваў з Новым годам. А ў Мінск ляцела ягонае віншаванне. Пра гэта можна было б і не пісаць, але ўразіла паштоўка: вялізная, складзеная гармонікам у тры столкі, на ёй мужчына і жанчына ў вазку на парцы коней імчаць па зімовай вёсцы. Старыя хаты, паваленыя платы, заснежаныя дрэвы. Казка! Здавалася, што гэта знята ў роднай вёсцы Сяднёва на Магілёўшчыне. Паштоўка аздоблена бліскучымі зоркамі-бліскаўкамі, рукапісны тэкст на англійскай мове. Унізе старэчыя няроўныя літары: віншаванне з Новым годам і Калядамі.

А неўзабаве прыйшоў ліст — адказ на маё пасланне. Сяднёў не хаваў сваёй радасці, што кніга можа выйсці на любімай радзіме, прапанаваў два варыянты кампаноўкі твораў. А далей пісаў вось што:

"Дарагі Леанід Кірэевіч, нахамутаў я тут усяго-ўсенькага, а думка перабегла на маю іншую кнігу "На споведзь перад Айчынай" — рукапіс у Мінскім літаратурным архіве-музеі". І далей трэці варыянт кнігі. Заканчваецца ліст так: "Выбачайце, што ўцягваю Вас у гэтую работу. Калі Вам усё гэта зацяжка, можам тады і адкласці. Але гэта ж Ваша ідэя: падтрымаць мяне — выдаць кнігу да майго 90-годдзя. Але як я Вам і казаў, Бог не дае мне столькі часу — трэба, каб кніга выйшла хутчэй".

Масей Сяднёў прадчуваў, што часу ў яго мала. На вялікі жаль, кнігі ён не дачакаўся. Але глядзіце, якая далікатнасць: калі Вам усё гэта зацяжка, можам тады і адкласці. Ліст мае і пастскрыптум. Першы раз я прачытаў прыпіску з усмешкай. А потым, калі чытаў пасля жахлівай весткі, у горле застраў камяк, хацелася воўкам выць...

Гэтую прыпіску варта даць цалкам, бо яна характарызуе Масея Сяднёва як чалавека, як асобу.

"П.С. (менавіта гэтак, а не лацінскімі літарамі, пазначае ён пастскрыптум). Замучыла сумленне, калі Вы нарэшце дабраліся да нас і калі мы ўжо сядзелі (спярша было "селі", гэтае слова закрэслена) дружнай сям'ёй за сталом, выпілі віна, я неяк адчуў, што мы "не дапілі", а віна ў мяне болей не знайшлося, памяць не падказала, на жаль, што Вы прыехалі са сваім віном (Оля ўжо паставіла яго ў рэфрыжэратар), якое і належалася было паставіць на стол. Сёння няма ў мяне віна (я прывык бакальчык віна выпіваць), а купіць не магу (замяло нас снегам), пакутваю, а жонка: дык вон жа віно ў халадзільніку, Левановічава віно. Але я не адчыняю бутэльку, пакуль Вы не прыедзеце да нас, тады і "дап'ём". М.С."

У гэтай прыпісцы ўвесь трагізм чалавечага жыцця ўвогуле. Уражвае яснасць думкі, адчуванне стылю, дакладнасці слова. Так, сапраўды, Масей Сяднёў да апошніх дзён служыў Слову.

## 7

Першыя вершы Масея Сяднёва надрукаваў часопіс "Полымя" ў 1934 годзе. А першы зборнік паэзіі "У акіяне ночы" ўбачыў свет у 1946-м у невялікім нямецкім гарадку Рэгенсбургу. Праз год выйшла другая кніжка "Спадзяванні". У тым жа годзе ў Міхельсдорфе, дзе Сяднёў працаваў выкладчыкам беларускай гімназіі імя Янкі Купалы, з'явілася на свет кніжка "На краі свету", а ў Ватэнштаце - "Цень Янкі Купалы". На той час прыйшоўся вельмі плённы перыяд у творчасці Сяднёва. "Я жыў паэзіяй, паэзія давала мне крылле, глушыла боль, — прызнаваўся Масей Ларывонавіч пазней. — Як, дарэчы, і ў сталінскіх турмах, на Калыме. Каб, здаецца, не вершы — не жыў бы".

*Калыма ты, Калыма,*
*Дзіўная планета!*
*Дванаццаць месяцаў зіма,*
*Астатняе лета,*

— гэтыя радкі Сяднёва былі папулярнымі паміж вязняў і лічыліся "народнымі".

Абставіны жыцця прымусілі шукаць прытулак у Амерыцы. На першым часе было не да паэзіі, не да кніг. Давялося цяжка працаваць, каб пракарміць сям'ю. Вальней уздыхнуў, калі па конкурсе стаў выкладчыкам рускай мовы ва ўніверсітэце штата Індыяна. Зноў пачалі з'яўляцца вершы.

*Цяпер тое ўсё далёка,*
*Як звон за хатай калосся,*
*Пісаліся вершы лёгка,*
*калі мне цяжка жылося.*

Адзін з самых любімых вобразаў паэта-выгнанніка — беларуская жалейка. У вершы, які мае назву "Жалейка", Сяднёў нібы спавядаецца:

*Спрабую зноў крануць маю жалейку*
*Пасля бясплодных стольких год...*
*У час выгнанніцкі яна была мне лекам*
*І вызначала думак маіх ход.*
*Я з ёю йшоў сібірскімі шляхамі,*
*Туліў яе за пазухай ад сцюж на Калыме.*
*Дзяліўся з ёю згадкамі і снамі —*
*І з ёю было цёпла мне.*

Галоўная, скразная тэма паэзіі Сяднёва — Радзіма. Далёкая зямля, дзе з'явіўся на свет.

*Засумаваў я па табе, Радзіма,*
*Па недаступнай па тваёй красе.*
*Кудысьці адыходзіш ты ўсё міма*
*І забываешся, даруй мне, пакрысе.*

Дзіўная гэтая радзіма. Дзе яшчэ на зямлі ёсць край, за любоў да якога трэба плаціць жыццём? А калі ўдасца ацалець, то дажываць трэба на чужыне.

Радзіма — мачаха, а не ласкавая маці. Але яна стала такой не сама па сабе. Людзі, што вяршылі на ёй уладу, прыхадні ці то з усходу, ці то з захаду, перацягвалі яе лепшых сыноў на свой бок. А калі гэта не ўдавалася, пазбаўлялі жыцця.

Не, забыць сваю Радзіму Масей Сяднёў не мог. Як не мог і не пісаць пра яе, хоць вершы не даходзілі да Беларусі, нібы лісты без адрасу. Не прыносілі яны ні славы, ні грошай, выдаваў паэтычныя зборнікі за свой кошт. І ўсё ж, як любы творца, не мог не думаць і пра славу.

*Я да славы чужое зусім не зайздросны,*
*але славы зрачыся не хацеў бы ні мала.*
*Я хацеў бы хоць так уваскрэснуць,*
*як Максім Багдановіч, Колас, Купала.*
*Да багацця зямнога я не зайздросны,*
*хоць хацеў бы займець сваю хату,*
*каб над ёю шумелі сосны,*
*гналі спёку ценем кашлатым.*

Паэзія Масея Сяднёва нагадвае лісты да каханай. Ды вось бяда — любая, каханая маўчыць, не адказвае, але ён ведае, што яна ёсць, жыве. Ён спадзяецца, што некалі ўспомніць пра яго, і ён творыць, быццам заклінанне, шэпча: "Падружыся са мной, шчэ нікім не ужытае слова". І знаходзіць такія словы: "Масты ўзняліся радугай зялёзнай". Менавіта так: зялёза, зялёзны — гавораць у Прыбяседдзі.

А каханая была, чакала. Пасля вайны Масей Сяднёў адшукаў Дусю, якая расціла ад яго сына. Тую самую Дусю, моцнае каханне да якой, магутную першародную жарсць ён апісаў у рамане "І той дзень надышоў". Апісаў з неверагоднай адкрытасцю і шчырасцю, без літаратурных прыкрас і прыдумак. Нават імя каханай не стаў мяняць.

Раман "І той дзень надышоў" — гэта спеў каханню, спеў спрадвечнай чалавечай жарсці. Я цалкам згодны з ацэнкай гэтага твора, якую даў Барыс Сачанка ў прадмове да кнігі "Патушаныя зоры" ("Мастацкая літаратура", 1992). "Раман напісаны ад першай асобы, вельмі шчыра, лірычна і такою багатаю, свежаю мовай, як цяпер ужо рэдка пішуць многія нашы празаікі. "І той дзень надышоў" — удача М.Сяднёва. Гэта бадай ці не самы лепшы раман, што створаны і выдадзены ў беларускім замежжы".

А першы буйны празаічны твор "Раман Корзюк", які ўбачыў свет у 1985 годзе ў Нью-Ёрку, унікальны паводле сваёй фактуры: даваенны Мінск, жыццё студэнтаў, турмы, рэпрэсіі, допыты. Ёсць у ім багата яркіх, па-мастацку выпісаных сцэн. Але аўтару не ўдалося моцна знітаваць гэты living разнапланавы матэрыял. Пісаўся твор доўга, з перапынкамі, ажно 27 гадоў. Але і пры пэўных недахопах гэта ўнікальны мастацкі дакумент часу.

Свядома акцэнтую ўвагу на Сяднёве-празаіку, бо пра яго часцей пісалі як пра паэта. Зрэшты, нашым крытыкам і літаратуразнаўцам яшчэ належыць адкрыць і асэнсаваць выдатны паэтычны талент Масея Сяднёва. "Вершы М.Сяднёва — гэта сапраўдная паэзія, яны вызначаюцца навізною мастацкіх сродкаў, нечаканай метафарычнасцю, лірызмам, свежасцю думкі, у некаторых з іх ён падымаецца да значных паэтычных абагульненняў", — слушна адзначаў Б.Сачанка.

Кнігу паэзіі Масея Сяднёва "А часу больш, чым вечнасць", падараваную аўтарам, я чытаў у амерыканскім Бостане, і нарадзілася яна на амерыканскай зямлі, але славіць у ёй паэт сваю далёкую Радзіму. Калі чытаў вершы, мне падалося, што п'ю крынічную ваду з маёй і яго, Сяднёва, роднай Бесядзі. А потым у Мінску з радасцю прачытаў у артыкуле беларуса з Беластока Яна Чыквіна пра творчасць Сяднёва ("Неман", №3, 2001) такія словы: "Гэта кніга рэдкай лірычнай чысціні".

Такім чынам, у асобе Масея Сяднёва мы маем сапраўднага паэта, таленавітага празаіка, а таксама тонкага ўдумлівага крытыка, перакладчыка, страснага, адмысловага публіцыста і эсэіста. Гэтую выснову пацвярджаюць вядомая чытачу "Масеева кніга", выдадзеная "Мастацкай літаратурай" у 1994 годзе, і яшчэ невядомыя "Дзённікі", "Мае сумлевы", якія я чытаў у рукапісе.

Шматпланавая творчасць Масея Сяднёва пашырае гарызонты нашай літаратуры, уздымае яе на еўрапейскі ўзровень. Вось што піша Ян Чыквін: "У прозе М.Сяднёва, як і ў яго вершах, чуюцца высокія прыклады еўрапейкай літаратуры — то ж гётэўскае адчуванне паўнаты жыцця, вялікае жыццялюбства, цялесныя радасці".

Можна з поўнай падставай сказаць, што 5 лютага 2001 года ў далёкім Глен Кове перастала біцца сэрца вялікага Беларуса, вялікага Жыццялюба і вялікага Патрыёта. Насуперак суроваму лёсу не змарнаваў ён свой шматгранны талент, пусціў карані на чужой зямлі, каб славіць там любімую, незабыўную Бацькаўшчыну. Вядома, зрабіў ён не ўсё, што мог, не ўсе свае задумы і планы здзейсніў, не спачываў на лаўрах:

*Жыву высокаю журбой,*
*Тугой па тым, што не збылося.*
*Як толькі быць незадаволеным сабой —*
*Нічога болей мне не засталося.*

Высокая журба. Туга па Радзіме. Сум, роздум — гэтыя словы ў загалоўках ягоных артыкулаў. Ну вось, напрыклад, цытата з "Масеевай кнігі". Артыкул: "Сум па духоўным пантэоне". "У нашым духоўным пантэоне няма яшчэ свайго Гётэ. Над нашымі руінамі сімвалам выратавання не ўзняўся яшчэ беларускі Гётэ, — скрушна зазначае аўтар. — Над нашай пакутнай, але прыгожай зямлёй мусіць узняцца Агонь духу, і адбудзецца другое нараджэнне нашай нацыі, яе ўваскрашэнне".

Дарэчы, Сяднёў вельмі любіў Гётэ. Пра гэта сведчыць вялікая нізка вершаў нямецкага генія, перакладзеных ім на беларускую мову. А яшчэ ён перакладаў Мікеланджэла, Генрыха Гейнэ, лаўрэата Нобелеўскай прэміі Германа Геса. Пераклады Сяднёва — важкі ўнёсак у нашу культуру.

Сярод артыкулаў рукапіснай кнігі мяне асабліва ўразіў адзін, які называецца "Пакутлівыя разважанні над беларускім пытаннем". Вось невялікая вынятка з гэтых пакутлівых разважанняў: "Пра беларусаў звычайна гавораць і пішуць, што гэта асіміляваная нацыя. А асімілятары — гэта палякі і рускія. На гэты конт я сказаў бы: асіміляваць можна толькі тое, што паддаецца асіміляцыі. Мы і ёсць тое, што асімілюецца".

## 8

2001 год. У некралогу, паведамленнях аб смерці Масея Сяднёва пісалася сцісла і скупа. Кароткае паведамленне ў "Звяздзе": "Беларускі паэт Масей Сяднёў памёр 5 лютага ў ЗША. Пра гэта паведаміла яго дачка Таццяна, для якой вельмі важна, каб на любімай радзіме бацькі памяталі пра яго". Крануў загаловак: "У чужой краіне — цяпер назаўсёды".

Так, прах Масея Сяднёва знайшоў супакой у чужой краіне. А душа яго пераляцела Атлантыку і вярнулася дамоў, да сваіх прашчураў. Хіба не парадокс: чалавека з прозвішчам Сяднёў, якому б сядзець у роднай вёсцы, быць настаўнікам, лёс кідаў то ў адзін канец свету, то ў другі. З Мінска на Калыму, з Калымы ў Мінск, затым у Нямеччыну і зноў назад у Амерыку, дзе застаўся назаўсёды. Можа, нашы нашчадкі, асэнсаваўшы ўсё напісанае Сяднёвым: паэзію, прозу, пераклады, эсэістыку, літаратуразнаўчыя даследаванні, у тым ліку і напісаныя на рускай мове (Чехов как драматург", "Философские отступления в романе Л.Толстого "Война и мир", за якія наш зямляк стаў у Амерыцы магістрам і асістэнтам-прафесарам) — вырашаць перанесці на радзіму і ягоны прах. У духоўны Пантэон Вялікіх Беларусаў.

А наша задача, наш святы абавязак — вярнуць Бацькаўшчыне, якую ён так любіў, усё, што напісаў Масей Сяднёў. Ягонае жыццё, ягоны лёс варты асобнай кнігі-жыццяпісу. Было б добра, каб нехта з ягоных дзяцей, якія жывуць у Амерыцы, напісаў успаміны пра бацьку. Гэтыя ўспаміны прыдаліся б пры стварэнні кнігі пра нашага славутага земляка.

Прыбяседскі край — калыска слынных творцаў: Аркадзя Куляшова, Івана Чыгрынава, Аляксея Русецкага, Васіля Хомчанкі, Пятра Прыходзькі, Алеся Пісьмянкова. Недалёка ад Бесядзі і родная вёска выдатнага паэта Аляксея Пысіна.

У сузор'і гэтых імён ярка ззяе зорка Масея Сяднёва, таленавітага самародка, якога ўзгадавала беларуская жыццядайная зямля.

ВЕДАЙ НАШЫХ!

# Золата Паўла Пятрова

*Залатую ўзнагароду на Першых адкрытых маладзёжных Еўрапейскіх Дэльфійскіх гульнях у Валгаградзе атрымаў саліст Беларускага тэатра оперы і балета Павел Пятроў.*



Беларускі спявак Павел Пятроў атрымаў золата ў намінацыі "Акадэмічныя спевы". Ва ўнікальным спаборніцтве — адзіным у свеце, што аб'ядноўвае ўсе віды мастацтва, бралі ўдзел каманды з усіх рэгіёнаў Расіі, а таксама дэлегацыі з 26 краін свету. Усяго ў Дэльфійскіх гульнях удзельнічалі 2,5 тысячы чалавек.

Гэта не першая перамога маладога саліста тэатра Паўла Пятрова на міжнародных конкурсах. У 2013 года ён стаў лаўрэатам другой прэміі VIII Міжнароднага конкурсу вакалістаў імя Станіслава Манюшкі, у гэтым жа годзе — лаўрэатам першай прэміі ў Міжнародным конкурсе оперных выканаўцаў імя Марыі Біешу ў Кішынёве.

Салістам Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Павел з'яўляецца ўжо два гады.

**Вера ВІР.**

ЧУЛІ?

# Канчыта Вурст можа прыехаць у Мінск

Цяпер з прадстаўнікамі пераможцы "Еўрабачання-2014" вядуцца перамовы. Канцэрт артысткі плануецца на лета. Як выявілася, беларускія тэлегледачы годна ацанілі прадстаўніка Аўстрыі Канчыту Вурст, паставіўшы на чацвёртае месца. Больш смс-паведамленняў і званкоў набралі толькі Расія, Арменія і Украіна.

А вось журы было нашмат больш кансерватыўным. Пяцёра беларускіх экспертаў паставіла Аўстрыю на 24-е, 25-е, 20-е, 23-е і 22-е месцы адпаведна. У сярэднім гэта 23-е месца.

# Самый богатый испанец оденет белорусов

Владелец Inditex Group и бренда Zara испанец Амансио Ортега, занимающий четвертое место в мировом рейтинге миллиардеров, дал добро на выход компании на белорусский рынок. До весны этого года Беларусь оставалась одним из редких белых пятен в европейском бизнесе 78-летнего ретейлера, чье состояние оценивается экспертами Forbes в 63,4 млрд долларов.

Inditex Group давно работает на всех соседних с нашей страной рынках, магазины практически всех брендов группы (Zara, Zara Home, Bershka, Massimo Dutti, Pull and Bear, Stradivarius и др.) открыты в России, Украине, Польше, Литве и Латвии.

С МОЕЙ КОЛОКОЛЬНИ



Елена МОЛОЧКО

# Время — сестра правды

Я человек заинтересованный. Если в белорусских городах появляются новые памятники, значит, считаю, властям — зачет.

А памятники появляются! И в столице, и в районных центрах.

В достославном Несвиже в праздник, 9 Мая, власти представили общественности новую скульптурную композицию. Посвящена она не Отечественной войне, как можно было бы подумать, учитывая дату открытия. Хотя работа тоже связана с историей, точнее, ее символом. На пересечении центральных улиц Ленинской и Слуцкой появился лев, который держит щит с гербом рода Радзивиллов. Подобное изображение — лев со щитом — не раз встречалось на книгах из легендарной библиотеки магнатов. Ну, и царь зверей вообще древний символ власти. Еще с эпохи Возрождения в европейском искусстве и архитектуре скульптуры львов использовали как элементы украшения входов во дворцы, как детали парковых городских фонтанов. Лев — символ мужества, силы, величия рода. В Несвижском замке изображения львов применены в украшении камина. Так что новый "Лев" не случайный зверь в этом городе. Назову фамилии его авторов: скульптор Александр Финский и архитектор Армен Сардаров, известные деятели культуры. Работа небольшая, созданная в классическом стиле, очень добротно и, мне кажется, с любовью.

Повторю, я порадовалась за городские власти — находят средства! Отрадно, что ощущают внутреннюю потребность украшать родные места. Естественно, новый "Лев-страж" не поспорит с костелом и дворцом, не перетянет на себя архитектурные акценты, не разрушит ансамбль, охраняемый ЮНЕСКО, как сразу заволновались вечные критики нашей повседневности. Во-первых, он стоит на современном перекрестке. Во-вторых, это камерная работа, она не конкурирует с главными жемчужинами города и уж, конечно, не доминирует над ними. Она — изящный штрих, дополнение к существующему историческому ансамблю. К сожалению, весь город подтянуть до уровня главных достопримечательностей пока невозможно. Но вот пошагово, хотя бы по памятнику в год... Хотя и это, понимаю, слишком смелые мечты.

Конечно, влить бы пару бюджетов Минска в райцентр — засверкал бы наш Несвиж маленьким Парижем. А так пока при всем при том — районный городок с замком. Да и его жители, коренные несвижцы, далеко не каждый день бывают во дворце, любуются там архитектурными композициями, созданными французскими мастерами (по одной из версий). А вот по улице Ленинской около ратуши их житейские маршруты пролегают, полагаю, гораздо чаще. Так что со "Львом" на Ленинской разминуться им будет труднее. И скульптура, напоминающая о большой истории, войдет в их обыденную жизнь. Даже с этой точки зрения поставлен "Лев" более чем на свое место. И, уж если на то пошло, авторы, как я специально поинтересовалась, получили все мыслимые разрешения на его установку: все бумаги от Минкульта до Академии наук. Это месседж специально для оскорбленных критиков.

Но нет мира под оливами. Всегда найдется рядом тот, кто против: большого спорта, "Евровидения", георгиевских ленточек, моногамии, референдума, патернализма, постмодернизма, постпостмодернизма и так до бесконечности. "Честное меньшинство". Как они себя сами называют, естественно. Для большинства, само собой, предлагаются определения противоположные, уничижительные. Но вряд ли мы с ними согласимся, конечно. Хотя, если только об архитектуре, то дискуссия, по-моему, может развернуться лишь в одной плоскости: в каком стиле продолжать облагораживать современную городскую среду? С реверансами в традиционную реалистическую манеру, как хорошо усвоенный урок? Или все-таки рискнуть и шагнуть, нет, прыгнуть наконец в век XXI?

Я, например, давно жду "бомбы" в столице, чего-нибудь острого, экстраординарного. Вроде револьвера с завязанным дулом, как памятник "Нет насилию!" в Стокгольме. Впрочем, он уже классика. Тогда, скажем, слона, который стоит на своем хоботе вверх тормашками — как вызов силе тяжести. Почему бы и нет? Но таких скульптур нет, их время у нас, видимо, не пришло. А время — сестра правды. Постмодерна почти нет на наших улицах, потому что его нет в сознании большинства. А появись такой "сюр" сейчас в белорусской городской среде — это выглядело бы, наверное, надуманностью, фальшивкой. Люди бы его отторгли. А "Льва — стража города" несвижцы приняли как родного. По крайней мере сразу после установки, еще до официального открытия, его облюбовали дети, обнимая и пытаясь залезть ему прямо на голову. Хотят приручить-таки царя зверей, стража своего города. Удастся?

ГАСТРОЛЬ

Елена ЯКОВЛЕВА:

# «Иногда совсем не важно, на "Мерседесе" твой избранник приехал или на трамвае»

*12 июня в Минске покажут пронзительный спектакль "Территория любви". В главной роли — **Елена Яковлева**. Оригинальный по своему сценическому решению и звездный по актерскому составу проект поставил молодой режиссер Владимир Панков.*



"Территория любви" — это история о женщине и трех ее мужчинах, в которой переплетаются слова, музыка и чувства. Она пыталась найти свою единственную любовь, но что-то не сошлось, и она осталась в полном одиночестве. Подружка, любовница, жена — главная героиня перебирает истории своих отношений разных лет, вспоминает трех главных мужчин своей жизни и готовится к встрече с новым избранником.

— *Весь спектакль — это женские воспоминания о поисках любви*, — отмечает народная артистка России **Елена Яковлева**. — *И главное не то, что было когда-то с этой женщиной, а то, что сегодня происходит в ее душе. Ведь по прошествии лет не важно, на "Мерседесе" приехал к тебе твой избранник или на трамвае. Важно, что было тогда и что осталось в твоей душе сейчас.*

Весь спектакль сопровождается живой музыкой. Джазовые и блюзовые импровизации, которые не просто служат фоном для событий на сцене, а буквально проникают в действо, придавая им еще одно эмоциональное измерение.

В спектакле также заняты **Вячеслав Разбегаев, Евгений Бархатов, Андрей Заводюк и Петр Кислов.** Автор оригинальной пьесы — американский актер, кинорежиссер и сценарист Майкл Кристофер.

Билеты на спектакль стоят не так уж и дорого — от 210 до 770 тысяч рублей.

**Марина ВИШНЕВСКАЯ.**

Народная Воля
http://www.nv-online.info
13 МАЯ 2014 г.

КОЛОНКА ЮРИСТА

*На вопросы читателей "Народной Воли" отвечает юрист правозащитного центра "Правовая помощь населению" (Киев, Украина) Юрий БЕЛЯКОВ.*



## Квартира в наследство не входит

**В феврале 1982 года снесли дом, принадлежащий моей матери — Анастасии Щербо. На момент сноса дома денежная компенсация не выплачивалась. Дом снесли для строительства общежития. Маме предоставили благоустроенную квартиру. В 1985 году она скоропостижно умерла. На все мои обращения в госорганы, в том числе в судебные органы, мне было отказано в признании права собственности на квартиру в порядке наследования.**

**Как я могу получить свое наследство в виде квартиры?**

**Раиса Щербо, Могилев.**

Из Вашего письма видно, что Вы оспаривали наследство в суде. Решением суда Октябрьского района г.Могилева, оставленным без изменения Могилевским областным судом, Вам отказано в удовлетворении иска к администрации. Основание: на момент предоставления спорной квартиры действующим законодательством не предусматривалась передача гражданам в собственность квартир, предоставляемых им в связи со сносом находящихся в личной собственности жилых домов. Квартира при жизни Вашей матери относилась к государственному жилому фонду и в собственность ей не передавалась. Следовательно, суд обоснованно пришел к выводу, что указанная квартира в состав наследства входить не может. Кроме того, с заявлением в суд Вы обратились спустя 18 лет после смерти матери, пропустив без уважительных причин срок обращения.

К сожалению, в сложившейся ситуации Вы не можете получить в наследство переданную матери квартиру, а соответственно, и денежную компенсацию. Вместе с тем Вы имеете право получить оставшиеся после смерти мебель и личные вещи матери.

## Администрация имеет право...

**Может ли администрация на законных основаниях требовать от работника, получившего бытовую травму и имеющего больничный лист, объяснительную с обязательным указанием того, что во время получения травмы он находился в состоянии алкогольного опьянения? В противном случае бухгалтерия не оплатит больничный лист.**

**Александр Ращинский, Минск.**

Администрация вправе потребовать такое объяснение, поскольку это необходимо для назначения пособия по временной нетрудоспособности. Регламентируется это Положением о комиссии по назначению государственных пособий семьям, воспитывающим детей, и пособий по временной нетрудоспособности, утвержденного постановлением Совета Министров от 28.06.2013 г., №569.

## Ограничены ли права наследника?

**Я завещал свой банковский вклад дочери, инвалиду 1-й группы. Учитывая, что она не в состоянии пользоваться вкладом, назначил полноправным распорядителем вклада моего сына, но ограничил на три года его право снимать деньги, позволил только снимать 2/3 процентов ежемесячно. Заведующая нотариальной конторой увидела в этом ограничение прав наследника и отказалась принять такое завещание.**

**Имею ли я право ограничить полноправного распорядителя в получении наследства? Правильно ли мне отказала заведующая нотариальной конторой в принятии такого завещания?**

**Григорий Чернявский, Минск.**

Наследодатель действительно может ограничить наследника при получении наследства (ст.1041 Гражданского кодекса). Однако получение наследства может быть ограничено только **правомерными** условиями относительно характера поведения наследника.

В нотариальной конторе поступили правильно. Если Вы завещали вклад, то ограничение в виде снятия только процентов по вкладу является противоречащим нормам наследования, поскольку наследник не может воспользоваться полученным наследством в виде вклада.

## Сроки для судебной защиты пропущены

**В 1972 году подошла моя очередь на квартиру, которую отдали другому работнику. В следующем году по моей очереди квартиру передали снова другому человеку. Позже мне дали не новую квартиру, а из подменного фонда с заводским браком. После моей жалобы в 2008 году мне ответили, что якобы мне предлагали более низкий этаж, но я отказался. Это не соответствует действительности. Наша семья считает, что нас унизили, лишили радости получить новую квартиру.**

**Петр Ларчик, Гомель.**

Из Вашего письма следует, что Вы состояли на учете нуждающихся в улучшении жилищных условий по месту работы. По действующему на то время законодательству контроль за состоянием учета осуществляли исполнительные комитеты местных Советов народных депутатов и соответствующие органы профессиональных союзов.

По всем спорным вопросам Вы имели право обратиться с жалобой как в вышестоящий орган, так и в суд. Однако Вы не воспользовались таким правом и вселились в квартиру. К сожалению, сроки для судебной защиты Вашего права уже пропущены.

## Только через суд

**Была уволена с работы по соглашению сторон. При увольнении не был произведен расчет в полном объеме. По решению суда от 05.03.2013 года наниматель выплатил указанную в решении суда сумму только 13.06.2013 г. Когда я повторно обратилась в суд, чтобы с ответчика взыскать средний заработок за период просрочки, суд отказал в удовлетворении моих требований.**

**Можно ли взыскать с нанимателя средний заработок за период с 05.03.2013 г. по 13.06.2013 г.**

**Зинаида БАТУРО, Могилев.**

Если нанимателем несвоевременно исполняется решение суда, то все спорные вопросы разрешаются в порядке исполнения. Суд может по Вашему заявлению произвести индексацию взысканных денежных сумм на день исполнения решения.

**В суд Минского района Минской области поступило заявление о признании умершим Евгения Вячеславовича Лысаковского 03.01.1959 года рождения, уроженца д.Зазерье Пуховичского района Минской области, зарегистрированного по адресу: Минский район, а.г.Михановичи, ул.Советская, 25—39. Просьба ко всем гражданам и юридическим лицам, имеющим какие-либо сведения о Е.В.Лысаковском, сообщить их суду Минского района Минской области в течение двух месяцев со дня публикации.**

СПЕЦЫЯЛЬНЫ РЭПАРТАЖ

# «Вашы дзяўчаты — кроў з малаком!..»

*Карэспандэнт "Народнай Волі" высвятляў, чым акрамя хакея займаюцца ў беларускай сталіцы замежныя балельшчыкі.*

Аматары хакея пачалі з'язджацца ў Мінск за некалькі дзён да пачатку чэмпіянату. Напрыклад, у Студэнцкай вёсцы, дзе пражыванне досыць таннае (10—30 еўра ў суткі) каля 30 чалавек засяліліся 7 мая, на наступны дзень — каля 300, а 9 мая — тысячы. Тут жывуць у асноўным расіяне, латышы і беларусы-"рэгіяналы".

9 мая, у дзень адкрыцця першынства, Мінск віраваў. У "зонах гасціннасці" ракой лілося піва, размалёваныя госці хадзілі па горадзе са сцягамі сваіх краін.

*"З сабой фарбу многія прывезлі, каб сэканоміць",* — скардзіцца мне дзяўчына, якая за 100 тысяч рублёў зробіць з вашага твара дзяржаўны сцяг.

У "зонах гасціннасці" можна піць піва, але нельга паліць. На ўваходзе вас "абшманаюць" з ног да галавы, пры гэтым праверацы фотаапараты і іншую апаратуру. Як вядома, на перыяд чэмпіянату забаранілі продаж імпартнага піва, таму ў зонах частуюць толькі беларускім. Відаць, каб тыя ж чэхі, як казаў афіцыйны беларускі лідар, не "атруціліся" чэшскім півам.

Дарэчы, піўныя намёты працуюць у зонах гасціннасці да трох ночы, так што пасля першай перамогі расіян іх балельшчыкі "гасцінна газавалі" аж да раніцы.

*"Вельмі складана было ў першыя суткі чэмпіянату,* — распавядае мне касір намёта "Рэцычкае" Святлана Ясонава. — *Каля 400 літраў піва выпілі толькі ў нас! А ўвогуле, балельшчыкі весяляцца спакойна, без інцыдэнтаў".*

Тым часам СМІ са спасылкай на відавочцаў паведамілі, што нецвярозыя расійскія фанаты 9 мая вывесілі на агароджы Пасольства Грузіі ў Беларусі некалькі расійскіх сцягоў. Пры гэтым кажуць, што супрацоўнікі міліцыі, якія ахоўваюць грузінскую дыпмісію, не перашкаджалі вывешванню сцягоў, праўда, яны не дазволілі расіянам зняць з флагштока грузінскі сцяг.

Увогуле, расійскіх балельшчыкаў у Мінску — процьма. Многія ходзяць з георгіеўскімі стужкамі, са сцягамі СССР. Называюць сябе патрыётамі.

**Павел Бачароў, Андрэй Чашчын і Валянцін Трэпшын** прыехалі ў беларускую сталіцу на машыне з Валгаграда, але трымаюць у руках расійскі трыкалор з надпісам "За Сталінград".

*"Яшчэ ў лістападзе набывалі квіткі,* — распавядаюць яны. — *Не ў "Цэнтркурорце", а праз беларускую федэрацыю хакея. "Цэнтркурорт" прадаваў камплекты (пражыванне плюс білеты), але мы выйшлі на прадстаўніка аргкамітэта Пятра Рабухіна, які дапамог нам купіць асобна білеты на хакей, і асобна мы заплацілі за пражыванне. Гэта аказалася ў разы танней, чым у турыстычнай кампаніі. Таму такое "кідалава" нам не патрэбна. А так на нас пяцярых атрымалася 400 еўра на 4 дні. Нумары цудоўныя, абслугоўванне таксама. Праўда, горад не паглядзелі, не было часу..."*

Расіяне не чулі, што іх "калегі" вывесілі расійскі сцяг на грузінскай амбасадзе, але такі ўчынак толькі падтрымліваюць. І іншую пазіцыю яны слухаць не хочуць.

*"Калі вывесілі сцяг, значыць, так і трэба,* — кажа Павел. — *Мы за сваіх — гарой! Вось і ва Украіне фашысты хочуць прывесці да ўлады сваіх. Крым ужо пайшоў туды, куды трэба, зараз на чарзе другія рэгіёны Украіны... Мы, безумоўна, супраць грамадзянскай вайны, але нацысцкая палітыка нам не патрэбна. Мы — за славянскае сяброўства".*

Другая па велічыні армія фанатаў (пасля расіян) — з Латвіі. Марыс і Гаціс ужо некалькі гадоў не жывуць у Латвіі. Адзін працуе ў Швецыі, а другі — у Ірландыі. Але абодва кажуць, што *"хакей — гэта святое".*

— 6—7 тысяч латвійскіх балельшчыкаў прыехалі ў Мінск падтрымаць каманду.

**— Як адзначылі перамогу над фінамі?**

— О-о-о! Да 6 раніцы былі ў начным клубе. Само сабой пазнаёміліся з беларускімі дзяўчатамі. О-о-о! Такіх нават у Латвіі няма. Быццам зоркі! Як кажуць: кроў з малаком!

**— Што, акрамя хакея і дзяўчат, пабачылі ў Мінску?**

— Пасля начнога клуба нас павезлі на экскурсію ў Нацыянальную бібліятэку, дзе мы і заснулі. Чакаем экскурсію, калі можна будзе пастраляць з аўтамата Калашнікава. Ёсць і такая забава для нас у экскурсійным туры.

Дарэчы, на час чэмпіянату некаторыя сталічныя музеі працуюць да 12 гадзін ночы. Цікава будзе даведацца: ці шмат фанатаў-турыстаў наведалі позна вечарам культурныя ўстановы?

**Алесь СІВЫ.**

### ДАРЭЧЫ

Кароткія вынікі трэцяга дня чэмпіянату свету па хакеі ў Мінску з пункту гледжання арганізацыі бяспекі супрацоўнікамі міліцыі падвёў у "Фэйсбуку" прэс-сакратар ГУУС Мінгарвыканкама **Аляксандр Ластоўскі**, піша БелаПАН.

Паводле яго інфармацыі, *"некалькі латвійскіх балельшчыкаў перабралі са спіртным, міліцыянеры перадалі іх медыкам; міліцыянеры знайшлі дзве безгаспадарныя сумкі, зрэагаваўшы аператыўна; балельшчык з Прыбалтыкі зламаў стул у парыве пачуццяў — адміністрацыя арэны з разуменнем паставілася да сітуацыі; латыш згубіў дакументы — міліцыянеры знайшлі іх на трыбунах і вярнулі; на паркоўцы хтосьці пакінуў адчыненай машыну — міліцыянеры вылічылі ўладальніка і знайшлі яго, балельшчык быў вельмі ўдзячны, бо ў машыне знаходзіліся каштоўныя рэчы".*

*"Пра супрацоўнікаў ДАІ, да якіх пастаянна звяртаюцца замежныя вадзіцелі, я ўжо проста не згадваю",* — дадаў прэс-сакратар ГУУС.




### ВНЕ ИГРЫ

***

Александр Лукашенко зашел в раздевалку сборной Беларуси перед стартовым матчем на ЧМ-2014 пожелать команде удачи. В итоге белорусская сборная "удачно" проиграла — 1:6.

***

Защитник "Сент-Луиса" и сборной Чехии **Роман Полак** рассказал об опыте посещения учреждения здравоохранения в Минске после того, как получил травму в матче со Словакией.

*"Не знал, чего ждать от больницы в Минске. Не хотел, чтобы до меня там дотрагивались, мне нужно было только сделать рентген. Минск — чистый город, но о больнице так сказать не могу",* — сообщил Полак.

По словам доктора команды **Томаша Выскочила**, они были в поликлинике на улице Революционной, пишет Tribuna.com.

*"Больница 1980 года. Получили довольно интересный опыт. Но ренгтен нам сделать удалось",* — сказал врач.

***

*Свидетелем неприятного инцидента после матча Россия—Швейцария стал читатель charter97.org.*

На видео, которым с редакцией поделился читатель, видно, как швейцарские болельщики развернули огромный флаг своей страны. Все проходило мирно и весело, болельщики фотографировались на фоне швейцарского флага, однако один из российских болельщиков решил вмешаться и потоптаться по флагу соперников.

Швейцарским болельщикам удалось остановить и выпроводить хулигана.

***

*Блогера Нику Сандрос шокирует Минск в период чемпионата по хоккею.*

*"В каждом кафе полно мужиков! О, ЧМ, длись вечно!"* — пишет она в Фейсбуке, уточнив, что *"те, что унылые, — наши. Те, что улыбаются, — заграничные. Выбор есть!"*

***

За проезд от "Минск-Арены" до гостиницы "Планета" таксист-"бомбила" запросил более полумиллиона рублей.

По окончании матча Россия—Швейцария автобусы явно не справлялись с потоком болельщиков. Опьяненные победой россияне готовы были платить любые деньги, лишь бы уехать. Естественно, ситуацией воспользовались таксисты-нелегалы, которые брали пассажиров прямо с проезжей части, не боясь никаких штрафов — русские все равно больше заплатят.

Tut.by поинтересовался, сколько стоит доехать до гостиницы "Планета" за российские рубли: мол, белорусских денег нет.

— 2 тысячи рублей, садись, поехали, — для убедительности показал два пальца водитель черного Peugeot без каких-либо наклеек.

Переведя в уме на белорусские (571 тысяча рублей), журналисты отказались. Водитель расстроился не сильно: к машине уже спешила компания в трехцветных свитерах. Они не задумываясь согласились поехать в центр за те же 2 тысячи российских рублей.

НАШЫ

# Беларусы зайгралі толькі пасля таго, як ім далі «па шайбе»

*Спрэчкі аб тым, ці патрэбны краіне гэты чэмпіянат, можна весці доўга, аднак сёння трэба канстатаваць факты: каманды выходзяць на лёд, а першынство працягваецца.*



У першы дзень чэмпіянату зборная Беларусі сустракалася з камандай ЗША і прайграла з буйным лікам — 1:6. Дарэчы, святочны салют 9 Мая перанеслі з 22.00 на 23.00. Акурат на той час, калі заканчваўся матч беларусаў з амерыканцамі. Магчыма, такім чынам хацелі адзначыць першую перамогу беларускіх хакеістаў, але ў выніку гэты салют ў свеце таго, што зрабілі з нашай камандай, выглядаў ужо як здзек.

А вось у мінулую нядзелю беларусы рэабілітаваліся перад сваімі балельшчыкамі. Нягледзячы на тое, што наша каманда саступала па ходзе гульні зборнай Казахстана, у выніку беларусы перамаглі — 4:1. Відаць, трэнерскі штаб і хакеісты зрабілі высновы.

Дарэчы, паведамлялася, што на матчы з удзелам беларускай зборнай квіткі даўно прададзены і ў продажы іх больш не будзе. Тым больш дзіўна было назіраць на арэне мноства свабодных месцаў падчас гульні беларусаў з тымі ж амерыканцамі. Спартыўныя чыноўнікі ківаюць на Міжнародную федэрацыю хакея: маўляў, гэта іх выкупленая квота і іх свабодныя месцы. Але магчымы і іншы варыянт тлумачэння гэтай з'явы. Наколькі вядома, каб запоўніць трыбуны, квіткі раздалі ў многія ўстановы і на прадпрыемствы. Натуральна, што 9 мая, калі ў людзей быў выхадны, многія аддалі перавагу адпачынку. Тым больш у адзін момант хакей не палюбіш. Нават "на халяву". Вось і атрымліваецца, што сапраўдныя аматары хакея не могуць патрапіць на матчы, а некаторыя "балельшчыкі па размеркаванні" ледзь не засынаюць падчас гульні. Да слова, расказвалі, што на матч Беларусь—Казахстан, каб запоўніць вольныя месцы, аматараў запускалі на арэну проста так — нават без білетаў.

А чэмпіянат працягваецца, мы чакаем новых перамог нашай каманды...

### Вынікі матчаў

**9 мая**

БЕЛАРУСЬ—ЗША — 1:6, Славакія—Чэхія — 2:3 (перамога ў овертайме), Францыя—Канада — 3:2 (перамога па булітах), Швейцарыя—Расія — 0:5.

**10 мая**

Італія—Нарвегія — 0:3, Казахстан—Германія — 1:2 (перамога па булітах), Канада—Славакія — 4:1, ЗША—Швейцарыя — 3:2, Фінляндыя—Латвія — 2:3, Швецыя — Данія — 3:0.

**11 мая**

БЕЛАРУСЬ—Казахстан — 4:1, Германія—Латвія — 3:2, Нарвегія—Данія — 4:3, Фінляндыя—Расія — 2:4, Францыя—Італія — 1:2, Швецыя—Чэхія — 4:3 (па булітах).

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ШАШКІ

## Для нашых чытачоў

Міжнародны майстар з Мінска Віктар Шульга даслаў у рэдакцыю свае новыя кампазіцыі на разгляд аматараў шашак сярод чытачоў. Першую з іх паспрабуйце развязаць самастойна:

1. **Белыя**: c7, d6, e1, e7, f2, f4, f6, g7, h6 (9). **Чорныя**: a7, b4, b8, c3, c5, d4, e5, f8, g3, h2, h4 (11). Выйгрыш. Свае рашэнні вы зможаце праверыць у наступным выпуску рубрыкі.

2. **Белыя**: a5, c1, c7, d2, d4, e1, e5, f2, h4 (9). **Чорныя**: b6, b8, d8, e7, f6, g3, g5, g7, h8 (9).

Паглыбленне праблемы П.Кажаноўскага: de3, c3, c7, e5 і г.д. Гульня набыла дынамічны характар з неаўтаматычнымі перабоямі.

3. **Белыя**: b4, b6, c5, c7, d6, e5, g1 (7). **Чорныя**: a5, b2, c3, d2, d8, e3, g3, g5 (8).

Ускладненне канструкцыі В.Варушылы: e7, b8, h6, h2, f4, a5x.

4. **Белыя**: 6, 10, 12, 18, 19, 23, 27, 32, 44 (9). **Чорныя**: 16, 29, 33, 34, 41, 42, 43, 45 (8).

Паляпшэнне камбінацыі В.Логвінава на 100-клетачнай дошцы: 28, 21, 1, 46, 41!x.

## Прызёры — сталічныя гросмайстры

Яны пацвердзілі высокі клас гульні ў першынстве Беларусі па шашках-100 сярод мужчын: Яўген Ватуцін, набраўшы 17 ачкоў з 22 магчымых, заваяваў залаты медаль, Сяргей Насевіч — сярэбраны і Аляксандр Булатаў — бронзавы (па 16 ачкоў). Столькі ж і ў актыве міжнароднага майстра з Гомеля Андрэя Толчыкава, але паводле дадатковых крытэрыў яму прысуджана чацвёртае месца. Майстар А.Куніца і міжнародны гросмайстар па шаш-




ках-64 А.Валюк засталіся ў вышэйшай лізе на будучы год.

Намеснік старшыні Беларускай федэрацыі шашак Віталь Варушыла перадаў па электроннай пошце фрагменты з партый, якія раіць узяць на заметку:

1.**Белыя** (А.Куніца): 24, 25, дамка 2 (3). **Чорныя** (Я.Ханукаеў): 14, 15, 32 (3)

1. 24-19! 14:23 2. 0224, і ў чорных няма абароны.

2.**Белыя** (А.Валюк): 26, 28, 30, 33, 34, 35, 38, 40, 41, 45, 47(11). **Чорныя** (Я.Ватуцін): 3, 8, 12, 17, 18, 19, 20, 24, 25, 27, 36 (11).

1...1823!, і праз некалькі хадоў высветліцца, што ў белых адсутнічае магчымасць выратавацца 2. 2822 17:39 3. 3443 2534 4. 40:07, бо 4... 0812! 5. 07:18 1923+.

3. **Белыя** (А.Булатаў): 9, 27, 32, 35, 37, 38 (6). **Чорныя** (Ф.Бакач): 16, 17, 20, 21, 25, 26, 44(7).

1. 37-31 2. 35-30 3. 9-3 4. 3:32! 20-24 5. 32-38 24-30 6. 38-43 30-35 7. 43-49 (фінальны матыў "штаны") 16-21 8. 49:16 35-40 9. 16-11! 40-45 10. 11-50 з запіраннем простай чорных на 45.

## Праверце рашэнні

"**Для добрага адпачынку**": №1 (П.Шклудаў) — d6, h4 (e3) d8 (a1) dg5 (f2) e3 (g1) ef2 (d4) c5 (h6) g5, c5+.

**Мікалай ГЛАДКІ.**

**Адрас рэдакцыі: 220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.**
**Прыёмная: тэл./факс (017) 3286871.**
**Тэл.рэкламнага аддзела: (017) 3286609, 3286906**
**nvonlineinfo@gmail.com**
**http://www.nv-online.info**

ISSN 2071-9647
9 772071 964000 14036

**Падпісныя індэксы: 63222, 632222**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ**

**У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не вяртае, права ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 12.05.2014 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 26500 экз. Заказ №1911.**